# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



## *Да паважаных Айцоў Настояцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

15 кастрычніка 1928 году

Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; да канца году — 3 зл.

№ 4

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.



## Нацыянальны элемэнт у хрысьціянстве.

(Канец, гл. № 3).

Маральна-прасьветны ўплыў распаўсюджываньня хрысьціянскай пропаведзі меў сваім вынікам праўнае аб'яднаньне хрысьціянскіх народаў у мяйсцовыя цэрквы. Дзеля гэтага галоўнай падставай падзелу адзінай праваслаўнай царквы на цэрквы мяйсцовыя з даўных часоў быў падзел хрысьціянскай люднасьці па нацыянальнасьцям і тэрыторыям. Гэтая падстава, падтрымліваная практычнымі матывамі, караніцца ў старахрысьціянскай традыцыі пашаны да нацыянальнай еднасьці народаў, якія складаюць цела царквы, адрожніваюцца адзін ад другога моваю, нацыянальнымі асаблівасьцямі і сваім сацыянальным жыцьцём. Хрысьціянства ўзвысіла і падвысіла нацыянальныя паняцьці людзей, паднёсшы павагу чалавечай істоты, адкінуўшы старую нацыянальную выключнасьць жыдоўска-паганскага характару. Хрысьціянства ясна зазначыла, што ўсе людзі роўны перад Богам (у царства нябеснае войдзе кожны па сваіх заслугах), нікаму ні палічацца за заслугу, ні яго становішча, ні заслугі продкаў, ні нацыянальнае паходжаньне: у хрысьціянстве няма эліна і іудэя, абрэзанага і неабрэзанага, варвара і скіфа; але падносячы паняцьце аб „чалавеку", як аб дзіцяці Божым, Хрыстос ня руйнуе сямейнага зьвязку, як ня руйнуе і дзяржаўнага (аддайце кесарава кесару, а Божае—Богу), таксама ня руйнуе і нацыянальнасьці, як прыроднага зьвязку людзей, зьбліжаных між сабою аднэй кроўю. Заснавацель хрысьціянства, сусьветнай рэлігіі чалавецтва, „гэтых дваццаць паслаў", і загадаў ім, кажучы: „на дарогу паган не хадзіце і ў места самаран не заходзьце, а ідзіце раней да авец, якія згінулі з дому Ізраілева" (Мацьв. 10,5). Зразумела, што такая любоў да „авец з дому Ізраілева" тлумачыцца перад усім большай прыгатаванасьцю іх да прыняцьця Вучэньня Хрыстова, але разам з тым і сама ўжо стылізацыя гэтага загаду сьведчыць і аб пачуцьці нацыянальнай блізкасьці Хрыста да роднага Яму народу. Гэта пачуцьцё з асаблівай сілай выражаецца ў Яго, калі Ен кажа сваяму народу: „Ерусаліме, Ерусаліме! ты, што забіваеш прарокаў і б'еш каменьмі пасланых да цябе! Колькі разоў хацеў сабраць дзяцей тваіх, як птушка

зьбірае птушанят, а вы не схацелі". А адказ Хрыста Хананеянцы: „дай перш наесьціся дзецям, несправядліва было-б адбіраць хлеб у дзяцей і кідаць яго сабакам", не дае ўжо ніякага сумліву аб нацыянальным Яго пачуцьці.

Прызнаючы прыроднасьць нацыянальнага пачуцьця ў ьюдзей і сам падпадаючы пад уплыў гэтага пачуцьця, Хрыстос не адкідае нацыянальнага інстынкту людзей, толькі ачышчае яго ад таго заолёгічнага нацыяналізму, які завецца шавінізмам. Гэта Хрыстос ясна выразіў у словах да апосталаў: „ідзіце, навучыце ўсе народы" (Мацьв. 28,19). Аднэй з галаўнейшых умоваў пропаведзі лічыць Хрыстос зразумеласьць яе для тых, хто будзе слухаць. „Ідзіце па ўсяму сьвету і прапаведуйце Явангельле ўсім народам. Хто верыць і ахрэсьціцца той сцасецца... Адзнакі веруючых такія будуць... мовамі новымі загавораць". (Марк 16, 15—17).

Прапаведываць „па ўсяму сьвету", „усім народам" магчыма толькі пры такіх варунках, якія ставіў Хрыстос, калі цры гэтым ужываецца жывая мова кожнага народу. Як гэтыя адзнакі веруючым выразіліся, чытаем у Дзеяньнях апостальскіх: „І споўнілісь усе Духам Сьвятым і пачалі гаварыць у іншых мовах: Былі ў Ерусаліме і жыды і ўсе іншыя народы. Як пачуўся той голас зьбегліся ўсе і ўстрывожыліся, бо кожны чуў, што ў яго мове гавораць. І дзівіліся ўсе, кажучы адзін да другога: ці-ж усе гэтыя, што гавораць, галілейцы? Як-жа гэта мы чуем кожны сваю мову, у якой хто радзіўся. Чуем, што яны гутараць у нашых мовах аб вяліччы Божым". Так у самы дзень Пяцідзясятніцы ўрачыста было паказана на законную прыроднасьць нацыянальных адзнакаў сяброў новае Царквы і на неабходнасьць падзелу духоўнага царства Хрыстова на арганічна зьвязаныя паміж сабой часьціны па нацыянальных адзнаках. Апосталы, атрымаўшы цудоўны дар гаварыць у розных мовах, панясьлі кожны Вучэньне Хрыста таму народу, якога мова стала для яго сваёй.

Прынцып гэты захаваны і ў Царкве Праваслаўнай. Усе эманцыпаваныя, аўтакефальныя цэрквы, заўсёды цалком захоўваюць дагматычную еднасьць з сваімі мітраполіямі і паміж сабой, а атрымліваюць толькі адміністрацыйную незалежнасьць, у сувязі з матывамі нацыянальнымі і дзяржаўнымі. Чатыры ўсходнія патрыярхаты: Царгарадзкі Антыахійскі, Ерусалімскі і Александрыйскі самастойныя і незалежныя адзін ад другога застаюцца ў брацкай еднасьці на ўлоньні адзінай Сусьветнай Царквы. Гэтак сама захоўваецца царкоўная еднасьць між тымі часьцінамі Усходняй Царквы, якія вядуць доўгую і жорсткую барацьбу паміж сабой—на тым-жа грунце царкоўна-нацыянальнай незалежнасьці. Бязупынная царкоўная барацьба паміж грэцкім і славянскім сьветам канчаецца ўтварэньнем больш ці менш самастойных цэркваў: сэрбскай, баўгарскай, украінскай, маскоўскай; пры гэтым з прычыны ўзнаўленьня аўтакефальнасьці баўгарскай царквы, перарваліся зносіны яе з царквой царгарадзкай, якая ўжо больш як 50 гадоў не прызнае гэтай эманцыпацыі, але дагматычная еднасьць паміж імі зусім не парушана. Ня менш інтэнсыўная царкоўна-нацыянальная барацьба вядзецца і ў самым цэнтры славянскага сьвету—паміж украінскай і маскоўскай царквой.

З гэтых фактаў бачым, што Хрысьціянская Царква ў працэсе сваяго гістарычнага жыцьця заўсёды адчувала на сабе ўплыў фактара нацыянальнага. Пад уплывам гэтага фактара адзіная па ідэі Царква дзялілася на часткі, адпаведна фактычнаму падзелу на тыя нацыянальныя арганізмы, з якіх яна складалася, з уплывовым удзелам таго самага фактара ствараўся рэлігійна-царкоўны сьветагляд у кожнай такой складовай частцы адзінай Царквы.

Кажучы аб ролі нацыянальнага фактара ў рэлігійна-царкоўным жыцьці, нельга не зьвярнуць увагі і на тое, што калі з аднаго боку Царква выкарыстоўвае нацыянальныя і грамадзкія чыньнікі ў жыцьці народа для дасягненьня рэлігійных мэтаў, дык з другого боку існаваньне нацыянальнай царквы становіцца вельмі пазытыўным фактам у нацыянальна-дзяржаўным жыцьці народа.

Нацыянальнае жыцьцё разьвіваецца тады, калі адна з галаўнейшых галінаў духовага жыцьця, галіна рэлігійная разьвіваецца на грунце нацыянальным. У адпаведныя моманты народнага жыцьця царкоўна-нацыянальнай справе надаецца вялікае значэньне, каля яе вядзецца жорсткая барацьба і Царква становіцца ворганам нават сьцімулам нацыянальнай творчасьці.

Практычнае значаньне рэлігійнага чыньніка палягае на тым, што ён даходзіць да найглыбейшых бакоў чалавечае душы, уплывае аднолькава як на дарослых, так і на дзяцей, на ўсіх і ўсюды, у самыя глухія куткі краю дасягае яго чыннасьць. Як ведама з гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў на грунце рэлігійна-царкоўным вялася барацьба ня толькі за веру але і за нацыянальнасьць; „расейская вера“ стала заклікам да змаганьня за расейскую нацыю і пад гэтым заклікам была абаронена і ўратавана ня толькі праваслаўная вера, але і нацыянальнасьць. У гісторыі іншых народаў пабачым тыя самыя факты. Польскае духавенства ў былой Расеі было галаўнейшым чыньнікам нацыянальнай сьвядомасьці польскай масы, немцы праз Царкву асымілявалі чэхаў і палякаў, мадзяры—славакаў, харватаў, румынаў, украінцай; асабліва ўкраінцаў і беларусаў асымілююць—расейцы, палякі, мадзяры, румыны.

О. ЛАТОЦКІ.

# Беларусы.

Беларусы нароўні з палякамі, расейцамі і ўкраінцам. зьяўляюцца адным з найвялікшых этнаграфічна аддзеляных славянскіх племёнаў. Тэрыторыя, якую займаюць беларусы і парадак з якім яны займаюць, бачым з ніжэйпададзенай табліцы (укладзена па статыстычным дадзеным 1914 г. прафэсарам Карскім).

| Былыя расейскія губерні з беларускім насельніцтвам | Лік беларус. (у тысячах) |
|---|---|
| Чарнігаўская . . . . | 1.294,3 |
| Смаленская . . . . . | 1.251,0 |
| Сувалская . . . . . . | 188,1 |
| Горадзенская . . . . | 1.400,2 |
| Віленская . . . . . . | 1.736,7 |
| Віцебская . . . . . . | 1.243,4 |
| Магілёўская . . . . . | 2.261,5 |
| Мінская . . . . . . . | 2.498,9 |
| Ковенская . . . . . . | 82,4 |
| Арлоўская . . . . . . | 38,4 |
| Цьвярская . . . . . | 125,0 |
| Пскоўская . . . . . | 42,4 |
| Калужская . . . . . | 41,1 |
| Курляндзкая . . . . . | 21,8 |
| Разам . . | 12.225,2 |

Што датычыць рэлігійнага складу беларусоў, дык у процэнтах ён выражаецца ў наступных лічбах (дадзеныя агульна-расейскай перапісі 1897 г.):

| | |
|---|---|
| Праваслаўных . . . | 81,21% |
| Каталікоў . . . . . | 18,30% |
| Лютэран . . . . . | 0,01% |
| Стараабрадцаў і ўхіляючыхся . . . . . | 0,46% |
| Сэктантаў . . . . . | 0,02% |

Права кожнага народу на самастойнае разьвіцьцё акрэсьліваецца перад усім яго літэратурным багацьцем, якое ён стварыў на працягу сваяго існаваньня. У гэтых адносінах мінуўшчына беларускага народу так багата, гісторыя яго так цікава, што над імі нельга не застанавіцца нават і ў гэтай кароткай справаздачы.

Шлях самастойнага культурнага і нацыянальнага разьвіцьця, на які ў другой палове мінулага стагодзьдзя ўступілі беларусы, па справядлівай увазе аднаго з сучасных беларускіх літэратурных дзеячоў — „ні што іншае, як адраджэньне: беларусы маюць вялікую гістарычную мінуўшчыну, і пара іх найвышэйшага расьцьвету адносіцца да старых часоў, калі Беларусь уваходзіла ў склад Вял. Кн. Літоўскага.

Беларуская мова, на якую ў нашыя часы звычайна глядзяць, як на гутарку сялян так зв. „Северо-Западнаго Края“, у пару першага расьцьвету беларускай культуры была дзяржаўнай мовай, мовай, у якой выдаваліся законы і ў якой гутарыла найвышэйшая інтэлігэнцыя таго часу.

Беларускае пісьменства пачалося яшчэ ў X—XI ст. ст., але да пачатку XVI ст. ня мела вялікага распашыраньня з прычыны адсутнасьці друку. Але ўжо ў самым пачатку XVI ст. зьяўляецца на Беларусі друкар і грамадзкі дзеяч доктар Францыск Скарына, як і 6-га жніўня 1517 г. надрукаваў першую беларускую кнігу. Гэтая дата была ўрачыста адсьвяткавана беларусамі ў 1917 г. у чатырохсотыя ўгодкі беларускага друку.

Францыск Скарына радзіўся каля 1490 г. ў Полацку, дзе і атрымаў пачатковую адукацыю. 13-14 гадоў Скарына прыехаў у Вільню, а згэтуль трапіў у Кракаўскі ўнівэрсытэт. Па сканчэньні ўнівэрсытэту атрымаў вучоную ступень доктара. З Кракава Скарына адправіўся ў Падую і ў падуанскім унівэрсытэце атрымаў дыплём доктара мэдыцыны. Пазьней скарына пабываў у Нямеччыне, дзе тады вёў сваю працу Гутэнбэрг. З Нямеччыны Скарына прыехаў у Прагу і пачаў тут працаваць над перакладам на беларускую мову Бібліі. На працягу часу 1517 — 1519 г. г. ён пералажыў і надрукаваў 22 кнігі Старога Завету. Пераехаўшы ў хуткім часе ў Вільню Скарына адчыніў тут друкарню і 1915 г. надрукаваў першую на бацькаўшчыне кнігу: „Малую падарожную кніжыцу“, у якой былі зьмешчаны ўсе штодзенныя малітвы і каляндарныя весткі.

Друкарня Скарыны была першай друкарняй ў Вільні (першая польская была заснавана ў Вільні ў 1576 г.).

Ведама як цяжка народу захоўваць і разьвіваць сваю культуру, ня маючы палітычнай незалежнасьці. Так было і з беларусамі. З заключэньнем люблінскай вуніі канчаецца залатая пара беларускай літэратуры — у дзяржаўным жыцьці беларуская мова замяняецца польскай, а старанна завадзімыя польскія звычаі і парадкі, пры пагардзе да ўсяго беларускага. як да нечага непатрэбнага, прывялі ўрэшце да таго, што вышэйшыя беларускія клясы, ня вытрымаўшы ўціску, пакінулі на волю лёсу родны народ і цалком перанялі польскую культуру. Пасьля далучэньня Літвы і Беларусі да Расіі гэтае зьявішча ізноў паўтарылась: былы расейскі ўрад палажыў ня мала высілкаў і сродкаў да таго, каб далучаны край зрабіць „расейскім“ і пераканаць мяйсцовае насельніцтва ў яго „расейскім паходжаньні“. Так у 1865 г. было забаронена друкаваньне кніг у беларускай мове, а таксама ўжываньне гэтае мовы ў народных школах.

Дзякуючы гэтаму беларуская культура на працягу трох стагодзьдзяў ня мела магчымасьці разьвівацца. Тым ня менш, калі яна ня мела магчымасьці разьвівацца зусім самастойна, дык усё-ж з неаслабнай энэргіяй вялася тэарэтычная распрацоўка беларускае мовы і бытавой галіны жыцьця беларусоў. Цэлы шэраг беларусоў, прысьвяціўшых сябе навуковай і грамадзкай дзейнасьці, заняліся зьбіраньнем і распрацоўкай матар'ялаў, узятых з падставовай крыніцы—асяродку беларускага жыцьця — беларускай вёскі, і далі падставы ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Інтэнсыўнае разьвіцьцё сучаснай беларускай думкі пачалося, як ужо за значана, з другой паловы мінулага ста годзьдзя Гэтае разьвіцьцё дасягнул поўнага сваяго расьцьвету пасьля рэва люцыі 1905 г., калі лепшыя літэратур ныя сілы згуртаваліс каля выходзіўша у Вільні вельмі папулярнай газэт „Наша Ніва“. Гэты ўздым беларуска руху, быўшы натуральным працяга пачаўшагася ў той час грамадзкага рух ў Расіі, быў настолькі моцным і шч рым, што зараз-жа перадаўся і бел рускім гушчам: беларусы неяк адра інстыктыўна адчулі, што іх родная мов перарабіўшаяся дзякуючы гістарычн падзеям з мовы нацыянальнай у мо сацыяльную, „мужыцкую“, павінна вя нуць сваё ранейшае нацыянальнае зн чаньне.

З пісьменнікаў, адзначыўшыхся ў гэтую пару сваёй творчасьцю, асабліва выдатны: Якуб Колас ці Тарас Гушча (Кастусь Міцкевіч, радзіўся ў в. Мікалаеўшчыне, Менскага пав.) Янка Купала (радзіўся у в. Вязынцы, Менскага пав.), Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі, рыдз. у Менску), Аляхновіч (радзіўся ў Вільні) і Цётка (Алёізыя Кейрыс (радз. ў Лідзкім пав.).

# Царства Божае і царства кесара.

(Працяг, гл. №№ 1, 2, 3).

Пытаньне аб адносінах хрысьціянства да манархіі ёсьць пытаньне гістарычнае. І тое, што ўласьціва пэўнай гістарычнай пары ў хрысьціанстве, нельга празнаць дагматычнай праўдай Манархіі нятрывалы, яны праходзяць, як і ўсё зямное, прыроднае. Царква-ж застанецца непарушанай да канца часоў і „врата адавы“ не перамогуць яе. Царства кесара належыць лёсу. Царства Божае належыць вечнасьці. Хрысьціянства можа існаваць пры самых ражнародных гістарычных абставінах. І нельга прызнаць належачым прыродзе Царквы тое, што зьяўляецца гістарычна-пераходным і нятрывалым. Скрайныя староньнікі неразрыўнай сувязі паміж праваслаўем і самадзяржаўем, для якіх улада самадзяржаўца царкоўна і сьвяшчэнна, гатовы прызнаць у пасьвяшчэньні цара на царства восьмае таінства. І трэба сказаць, што чын пасьвяшчэньня на царства дае падставу для такой думкі. Пры чыне памазаньня цара вымаўляюцца словы: „пячаць дара духа Сьвятога“. Міма волі зьяўляецца думка, што цар атрымлівае асаблівую благадаць на царстваваньне, што царстваваньне ёсьць царкоўнае служэньне аналягічнае сьвяшчэнству. Пасьвяшчэньне цара ўводзіць царства кесара ў Царства Божае. Паганскі кесар атрымлівае пасьвяшчэньне і робіцца праваслаўным царом. У праваслаўным цары бачаць тэафанію. Як гэта магло здарыцца? Царква нічога ў жыцьці ня можа пакідаць не асьвяшчонным, яна асьвяшчае ўсё чалавечае жыцьцё ад нараджэньня да сьмерці, весь быт чалавечы, асьвяшчае і дзяржаўную ўладу, Але ў жыцьці Царквы, галоўным чынам Праваслаўнай Царквы (на Заходзе было іначай), здарыўся момант, калі яна не абмежавалася прызнаньнем рэлігійнага значэньня ўлады і сымбалічным асьвяшчэньнем дзяржавы, калі яна пабачыла ў праваслаўным цары як-бы зьяву сьвятой плоці, выразам Царства Божага на зямлі. Гэта ўжо была вялікая гістарычная памылка царкоўнага чалавецтва, зьмяшэньне царства Божага з царствам кесара. Ракавы факт падзелу Царквы, які быў найвялікшай няўдачай хрысьціявства ў гісторыі, спрыяў узмацненьню двух ухілаў, на Усходзе цэзарапапізму, на Захадзе папацэзарызму. Можна нават прыпусьціць, што калі-б ня было падзелу Царквы, дык ніколі-б не дасягнула такіх памераў, на Усходзе імпэратарская тэакратыя і на Захадзе тэакратыя папская. Але тэакратыям гэтым ня суджана было вечнае гістарычнае існаваньне. Папа застаўся і нават абвешчана была ў XIX стагодзьдзі яго непагрэшнасьць у справах веры, але папа згубіў сваю ўладу над сьветам, над сьвецкімі дзяржавамі, ён перастаў быць манархам. Папская тэакратыя балей не існуе. Заходні сьвет сэкулярызаваўся і каталіцкая царква існуе вонкава, як адна з арганізацыяў народні з іншымі арганізацыямі ў заходніх дзяржавах. У лепшым выпадку царква прыбягае да канкардатаў, у горшым яна ледзь церпіцца і прасьледуецца атэістычнымі ўрадамі. Візантыйскае тэакратычнае царства ўжо даўно пала. Грэцкая царква цэлы шэраг стагодзьдзяў існавала пад туркамі. Урэшце разбурылася і найвялікшая тэакратыя Усходу — сьвяшчэннае расейскае царства. І пала яно ня толькі ад вонкавых націскаў, але і ад унутранага распаду

Тэакратыі перасталі сымбалізаваць духовы стан народаў, рэлігійныя веравыньні народаў. Еднасьць народных вераваньняў скончылася, пачалася пара падзелу. Прымусова нельга ўтрымаць старых пачынаньняў. Старая сымболіка перастала быць сьвяшчэннай, як ў Эўропе так і ў Расіі. Рэвалюцыя зьяўляецца зьменай сымболікі ўнутранага жыцьця народаў. Манархіі на захадзе ці перасталі існаваць ці згубілі сваё рэальнае значэньне (Англія, Італія). Што раз больш і больш зьнікае зацікаўленьне да палітычкых формаў. У Расіі манархія ўжо ў часы Пятра Вялікага зрабілась гуманістычнай і сэкулярызавалася што раз больш і больш. Падпарадкаваньне царквы дзяржаве, стварэньне сынадальнага ладу і было працэсам сэкулярызацыі расейскай дзяржавы і зьбліжэньнем да тыпу заходняга прасьвяшчоннага абсалютызму. Славянафілы даўно ўжо цьвердзілі, што ў пэтэрбургскую пару расейскай гісторыі няма ў Расіі самадзяржава, а ёсьць абсалютызм з надзвычай разьвітай бюракратыяй. Абсалютызм-жа па славянафільскаму паняцьцю ня ёсьць расейская праваслаўная форма дзяржаўнай улады, а ёсьць толькі разьвіцьцём паганска-рымскай імпэрыялістычнай ідэі.

У чым-жа сутнасьць рэлігійнай ідэі самадзяржаўя і чым яна адрожніваецца ад абсалютызму? Згодна з ідэалёгіяй самадзяржаўя ўлада цара дэлегіравана не народам, а Богам. Няма правоў на ўладу, а ёсьць толькі абавязак улады. Улада цара зусім ня ёсьць абсалютнай, неабмежаванай уладай. Яна самадзяржаўна таму, што крыніцай яе не зьяўляецца воля народу і яна не абмежавана народам. Але яна абмежавана Царквой і хрысьціянскай праўдай, духова падпарадкавана Царкве, яна служыць не сваёй волі, а волі Божай. Цар і народ зьвязаны з сабой той самай верай, тым самым падпарадкаваньнем Царкве і праўдзе Божай. Самадзяржаўе мае на мэце шырокі народны сацыяльны базіс, жывучы самастойным жыцьцём, яно не азначае падаўленьне народнага жыцьця. Самадзяржаўе апраўдана толькі ў тым выпадку, калі ў народзе існуюць вераваньні, санкцыянуючыя ўладу цара. Яно ня можа быць вонкавым гвалтам над народам. Цар самадзяржаўны толькі ў тым выпадку, калі ён запраўды самадзяржаўны цар. Нездавальняючае праваслаўе Пятра Вялікага, яго ўхіленьне да пратэстантызму зрабілі яго абсалютным, а не самадзяржаўным манархам. Абсалютная манархія ёсьць параджэньнем гуманізму. У абсалютызме, у імпэрыялізме цар дэлегіраван народам, вярхоўная ўлада не належыць цару, хаця-ж і належыць яму абсалютная, неабмажаваная ўлада кіраваньня. Але народ можа і атабраць у цара ўладу. Такава ідэя абсалютнай манархіі выпрацаваная на Захадзе. У абсалютызме цар не зьяўляецца слугой Царквы. Падпарадкаваньне царквы дзяржаве зьяўляецца характэрнай адзнакай абсалютнай манархіі. Так было і з каталіцкай царквой пры Людвіку XIV. Абсалютызм заўсёды разьвівае бюракратыю і падаўляе сацыяльнае жыцьцё народу. Славянафілы-ж глядзелі на гэта іначай. Па іх поглядам вярхоўная ўлада належыць народу, але народ адмовіўся ад улады, каб прысьвяціць сябе духоваму жыцьцю, і ўвесь цяжар улады ўзлажыў на цара. Але ці існавала калі-небудзь у гісторыі рэлігійнае самадзяржауе ў чыстым, ідэальным выглядзе? Мусім прызнаць што не. У Візантыі рэлігійная ідэя самадзяржаўя заўсёды была зьмяшана з паганска-рымскім абсалютызмам, і ў ёй імпэратарская ўлада ня мела народнага сацыяльнага базісу. Уся пэтэрбургская пара расейскай гісторыі ёсьць панаваньнем абсалютызму і бюракратызму, падаўленьнем самастойнасьці Царквы і самастойнасьці народнага жыцьця. Найбольш блізкай да рэлігійнай ідэі самадзяржаўя была дапятроўская „Русь“. Але і там нельга знайсьці тых рысаў, якімі акрэсьліваецца самадзяржаўе. Іаан Грозны быў самым выдатным выразіцелям расейскага самадзяржаўя, але гэта як-раз і выклікала няпэўнасьць. На Захадзе-ж ні было нічога дакладна падобнага да самадзяржаўя, ды й не магло нарадзіцца на каталіцкім грунце. Там была барацьба духоўнай і сьвецкай улады. Ясна, што рэлігійная, праваслаўная ідэя самадзяржаўя, сьвяшчэннай манархіі,

ёсьць найчысьцейшая утопія дасканальнага, ідэальная дзяржаўнага і сацыяльнага ладу, такая самая утопія, як папская тэакратыя, як дасканальны, ідэальны сацыяльны лад. Цудоўная ўтопія можа найлепшая з усіх утопіяў! Але фактычна самадзяржаўе заўсёды ператваралася ў абсалютызм і было абсалютызмам. І Візантыя і Расія, дзьве вялікія праваслаўныя манархіі, не маглі служыць прыкладамі рэлігійнага самадзяржаўя. У кожнай вялікай манархіі пануе імпэрыялізм. Ні адна манархія ня можа вызваліцца ад паганскай імпэрыялістычнай ідэі, бо манархія па прыродзе сваёй паганскага паходжаньня. Толькі на кароткую хвіліну манархія становіцца праваслаўнай і пасьля ізноў хутка разьвівае ў сабе паганскія пачынаньні міраздзяржаўя, зямнога царства кесара.

Мы прыходзім да выніку, які можа здавацца парадаксальным. Звычайна абараняюць самадзяржаўе і манархію тым, што чалавечая прырода грахоўна і што грахоўнай прыродзе больш уласьціва манархічная форма кіраваньня, чым дэмакратычная. Дэмакратыю, сацыялізм і інш. абаранялі тыя, хто ня верыў у першародны грэх. Але цяпер гэтую тэорыю можна адкінуць. Іменна таму, што чалавечая прырода грахоўна, яна ўпоўні можа зьдзейсьніць дэмакратычны і сацыяльны лад, яна можа быць выразам гэтае грахоўнасьці. Дэмакратыя менш усяго прыпускае дасканальнасьць чалавечай прыроды, яна створана для недасканальнага і грахоўнага стану. Самадзяржаўная-ж манархія ператвараецца ў утопію дасканальнага, бязгрэшнага стану. Рэлігійная самадзяржаўная манархія ёсьць па свайму вельмі высокая ідэя, але абсалютна ўтапічная, прыпускаючы такі стан народаў, які наўрад ці можна зьдзейсьніць у нашым грахоўным сьвеце. Аб самадзяржаўі цяпер лятуцяць і будуць лятуцець так, як уперад лятуцелі аб сацыялізме. Але няма ніякіх падставаў верыць у тое, што народы знаходзяцца цяпер на шляху да стану, здольнага ўзрадзіць рэлігійнае самадзяржаўе, маючае на мэце выключную духовую суцэльнасьць і еднасьць веры. Сьвет зьбліжаецца да падзелу і гэта прадсказана хрысьціянскімі прароцтвамі. Ня толькі для будучыні, але і для мінуўшчыны рэлігійная самадзяржаўная манархія была ўтопіяй, рэальна-ж магчыма была толькі абсалютная манархія, у большай ці меншай ступені падпарадкаваная праваслаўю. Самадзяржаўя ніколі ня было і ніколі ня будзе. Гэта — ўтапічныя лятуценьні, абаснаваныя на зьмяшэньні Царства Божага з царствам кесара. Восьмага таінства пасьвяшчэньня цара на царства дагматычнае сузнаньне Царквы ня ведае, яно цалком адносіцца да гістарычнага а ня містычнага боку Царквы. Ды й ня можа быць таінствам Царквы тое, што мае прыроду рацыянальна-расейскую, партыкулярыстычную, а не ўнівэрсальную. Кожнае прымяненьне катэгорыяў Царства Божага да прыродна-гістарычнага царства кесара ёсьць утопія, рамантызм. У такога роду тэорыях няма рэлігійнага рэалізму, цьвярозага паняцьця запраўднасьці. Рэлігійнае самадзяржаўе немагчыма таму, што агулам немагчымы дасканальны грамадзкі лад у грахоўным сьвеце, таму што ў адносным немагчыма абсалютнае. І ў ідэі рэлігійнага самадзяржаўя ёсьць нястача пакоры, гордасьць, ператварэньне „кесарава“ ў „Божае“, зямнога ў нябеснае, адноснага ў абсалютнае, прыроднага ў духовае. Ідэя гэтая перашкаджае шукаць Царства Божага, перашкаджае ісьці па шляху рэальнага праабражэньня жыцьця. Тэакратычная ўтопія зьяўляецца крыніцай усіх сацыяльных утопіяў.

**Бердзяеў.**

(Працяг будзе).

# Родны край.

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Гдзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Гдзе лясы-бары гудуць,
Гдзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Гдзе пад гоман хваль крынічных
Думкі, думае прастор;
Гдзе увосень плачуць лозы,
Гдзе ўвясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?,..
Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю, рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Ды ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі,
І пуцінаю няроўнай
Бяжыцё ў далечыню —
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну...
Край мой родны, гдзе ў сьвеце
Край другі такі знайсьці,
Гдзе-б магла так, поруч з сьмецьцем ,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Гдзе-бы об-руку з галечай
Расьцьвіце й багацьця цуд
І гдзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?..
Скрозь вяночкі дрэў вясёла,
Над мястэчкам ці сялом,
Божы цэрквы і касьцёлы
Ўзносяць вежы к небясом.
Брацьця мае, Беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць сам Бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў.
Тут схадзілісь усе плямёны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць
І самых нас узяць у няволю,
Путы зьдзеку налажыць,
Кінуць ў цяжкую патолю,
Аб нас памяць ўсю замыць.
І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў.
І маскаль тут самачынна,
Гвалт над намі утварыў,
І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў;
І на нашых станавішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква.
Толькі-ж, брацьця, край ня згінуў,
Не пагнуўся яго стан,
І із нас душы ня вынуў
Ні маскаль ні польскі пан.
Гэй, суседзі, нашы брацьця!
Ня згубілі мы свой шлях,
Не ўламала нас няшчасьце,
Ня сагнуў нас жыцьця гмах,
Дык хіба-ж мы праў ня маем
Сілай—шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць.

Я. КОЛАС.

# КАНКАРДАТ

## заключаны Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Польскай.

(Працяг, гл. № 3).

Сталіца Апостольская ня зробіць ніякай зьмены ў ярархіі ці ў разьмежаваньні правінцыяў і япархіяў бяз згоды Польскага Ураду за выняткам дробных зьменаў у разьмежаваньні, калі гэта будзе патрэбна для дабра верных.

Арт. X.

Стварэньне і замен бенефіцыяў касцельных, кангрэгацыяў і манастыроў, а таксама іх дамоў і ўстановаў будзе залежаць ад адпаведнай улады касьцельнай, якая на выпадак калі-б на ўстанову вышэй пададзенага патрэбны былі грошы, можа атрымаць іх з Урадавага скарбу, паразумеўшыся з Урадам. Чужаземцы ня могуць атрымаць пасадаў кіраўнікоў манастырскіх правінцыяў, хіба з дазволу Ураду.

Арт. XI.

Апостальская Сталіца мае права выбару архіяпіскапаў і япіскапаў. Яго Сьвяцейшасьць згаджаецца зварочвацца да Прэзыдэнта Польскай Рэспублікі перад вызначэньнем Архіяпіскапаў і Япіскапаў епархіяльных, каадыютараў „cum iure successionis“, а таксама і палявога япіскапа, каб апошні ня меў нічога процiў дадзенай кандыдатуры з боку палітычнага.

Арт. XII.

Нававызначаныя япіскапы перад прыняцьцем сваіх абавязкаў мусяць складаць Прэзыдэнту Р. П. прысягу ў вернасьці, у наступнай форме:

„Перад Богам на Сьвятое Яван гельле прысягаю і абяцаю, як належыць Япіскапу, вернасьць для Рэспублікі Польскай. Прысягаю і абяцаю, што з абсалютнай ляяльнасьцю буду шанаваць Урад, усталены Канстытуцыяй і буду старацца, каб мае духавенства таксама яго шанавала. Апрача таго прысягаю і абяцаю, што ня буду прымаць удзел у якіх-небудзь загаварах ці нарадах, якія-б маглі прынясьці шкоду Польскай Дзяржаве ці агульнаму парадку. Не дазволю і сваяму духавенству прымаць удзел ў такіх пачынаньнях. Клапоцячыся аб дабрабыце Дзяржавы, буду старацца ўхіляць усякую небясьпеку, аб якой буду ведаць“.

Арт. XIII.

1) Ва ўсіх народных школах, за выняткам школаў вышэйшых, выкладаньне рэлігіі абавязкова. Прадмет гэты будуць выкладаць каталіцкай моладзі вучыцялі, выбраныя школнай уладай з асобаў, вызначаных уладай духоўнай. Улада духоўная будзе наглядаць за навучэньнем рэлігіі з боку зьместу і маральнасьці вучыцялёў.

У выпадку, калі-б улада духоўная адабрала ў вучыцеля дадзеныя яму правы, дык гэты астатні будзе пазбаўлены права на выкладаньне рэлігіі.

Гэтыя самыя правілы будуць стасавацца і да прафэсароў, дацэнтаў і асыстэнтаў унівэрсытэтаў на аддзелах каталіцкай тэалёгіі.

2) Ва ўсіх япархіях Касьцёл каталіцкі будзе мець духоўныя сэмінарыі, адпаведна кананічнаму праву, якімі будзе кіраваць і ў якіх будзе вызначаць вучыцялёў.

Навуковыя дыплёмы, выданыя праз вышэйазначаныя сэмінарыі, будуць даваць права на выкладаньне рэлігіі ва ўсіх школах апрача вышэйшых.

Арт. XIV.

Маемасьць, належачая Касьцёлу, ня

будзе падлягаць ні якому праўнаму акту; зьмяняючаму яе прызначэньне, іначай, як са згодай улады духоўнай, за выняткам выпадкаў зазначаных законам. У кожным выпадку прызначэньне нярухомай і рухомай маемасьці, пасьвячонай выключна службе Божай, як: Касьцёлаў, прадметаў, патрэбных для багаслужэньня і г. д. ня будзе зьменена без папярэдняга пазбаўленьня іх ўладай касьцельнай іх характару рэчаў асьвяшчоных.

Будова ці рэстаўрацыя касьцёлаў і капліц ня будзе адбывацца іначай як толькі згодна з тэхнічнымі і артыстычнымі правіламі ўставаў, датычачых будовы гмахаў і кансэрвацыі забыткаў.

У кожнай япархіі будзе створана камісія, зацьвержданая Япіскапам у паразуменьні з адпаведным Міністрам, для захаваньня ў касьцёлах і касьцельных будынках старажытнасьці, мастацкіх каштоўнасьцяў, архіўных дакумэнтаў і рукапісаў, маючых вартасьць гістарычную ці мастацкую.

## Арт. XV.

Асобы духоўныя і іх маемасьць. а таксама маемасьць установаў праўных касьцельных і маемасьць манастырская будзе ападаткавана нараўні з установамі і маемасьцю абыватэляў Рэспублікі Польскай, а таксама установаў праўных сьвецкіх, за выняткам будынкаў прысьвечаных службе Божай, сэмінарыяў духоўных, дамоў прыгатаваўчых для манахінь і манахаў, складаючых прысягу беднасьці, а таксама маемасьці з якіх даходы прызначаны на мэты рэлігійнага культу і не складаючых даходаў уласных духавенства. Памешканьні япіскопаў і парафіяльнага духавенства, а таксама іх адміністрацыйныя будынкі будуць трактавацца нароўні з будынкамі інстытуцыяў дзяржаўных.

## Арт. XVI.

Усе асобы духоўныя польскай нацыянальнасьці маюць згодна з законам права набыцьця і одступу свае маемасьці рухомае і нярухомае паводле права кананічнага, а таксама права абароны сваіх грамадзкіх правоў перад Урадам. Установы праўныя касьцельныя і манастырскія будуць прызнаны польскімі тады, калі мэты для якіх яны паўсталі, датычаць спраў касьцельных Польшчы, і калі асобы кіруючыя імі і іх маемасьцю стала жывуць у Польшчы. Установы праўныя касьцельныя не адпавядаючыя вышэйшым варункам будуць карыстацца правам наданым чужаземцам.

## Арт. XYII.

Установы касцельныя маюць права закладаць і кіраваць імі, паводле права кананічнага і згодна з публічнымі правамі дзяржаўнымі, могільнікі, прызначаныя для хаваньня каталікоў.

## Арт. XVIII.

Духавенства і верныя ўсіх абрадаў, знаходзячыяся па-за межамі сваіх япархіяў будуць падлягаць мяйсцовым япіскапам, паводле кананічнага права.

## Арт. XIX.

Рэспубліка Польская запэўнівае адпаведнай уладзе надаваньне, згодна з правамі кананічнымі, функцыяў, пасадаў і бенефіцыяў касьцельных. Пры надаваньні настаяцельскіх бенефіцыяў будуць стасавацца наступныя правілы:

На абшарах Рэспублікі Польскай ня могуць атрымаць іначай як з дазволу Ураду настаяцельскіх бенефіцыяў: чужаземцы і асобы, якія не атрымалі адукацыі ў інстытутах тэолёгічных у Польшчы ці ў інстытутах папскіх; 2) асобы, якіх дзеяльнасьць пагражае Дзяржаве.

Перад вызначэньнем на гэтыя бенефіцыі ўлада духоўная мусіць зьвярнуцца да адпаведнага Міністра Р. П., каб запэўніцца, што ні адна з прычынаў, пададзеных у пунктах 1 і 2 не стаіць гэтаму на перашкодзе. У выпадку, калі-б успомнены Міністар на працягу 30 дзён, такіх закідаў, проціў асобаў, якія маюць быць вызначаны, ня зрабіў, духоўная ўлада мае права даную асобу вызначыць.

## Арт. XX.

У выпадку, калі-б Урад Польскі закінуў што-небудзь пэўнай духоўнай асобе, што да яе дзеяльнасьці, як спрэч-

най з бясьпекаю Дзяржавы, адпаведны Міністар прадстаўляе дадзеныя закіды Япіскапу, які разам з гэтым Міністрам на працягу 3 месяцаў выдасьць адпаведныя загады. У выпадку нязгоднасьці пастановаў Япіскапа і Міністра, Апостальская Сталіца даручае вырашэньне справы двум вызначаным Ею духоўным, якія разам з двома дэлегатамі Прэзыдэнта Рэспублікі вынясуць аканчальную пастанову.

(Працяг будзе.

# Значэньне коопэрацыі у жыцьці грамадзянства

Баявым лёзунгам у цяжкім жыцьці нашага народу ў цяперашні мамант зьяўляецца дамаганьне школы ў роднай мове.

Адначасна з напружанай працай найбалей выдатных асобаў у гэтым кірунку мы павінны павясьці ня менш шчырую працу і ў другой галіне нашага жыцьця, якая таксама мае вялізнае значэньне дзеля дабрабыту і сьвядомасьці нашага грамадзянства. Я маю на мэце разьвіцьцё коопэрацыі. людзкую сьвядомасьць у ёй і карысьць ад яе.

Дужа вялікім ворагам разьвіцьця і пашырэньня коопэратыўнай працы сярод беларускага грамадзянства зьяўляецца незацікаўленьне ёю і ня толькі нашага селяніна, а на жаль і інтэлігэнта. Як магілкавы помнік душыць гэтае наша незацікаўленьне шмат і другіх добрых ідэяў і пачынаньняў. Але калі мы так незацікаўлены пакуль што трудна нам разварушыцца якой-небудзь ідэяй дзеля яе самой, ці з сумлівай карысьцю для сябе ў бліжэйшай будучыні, дык павінны хаця-ж умець пабароць сваю санлівасьць і апатыю ў выпадку бязспрэчнай карысьці ад гэтага для сябе ў разе, калі гэтая карысьць сама крычыць аб сабе.

Ідэя коопэрацыі ва ўсіх яе выглядах па сваёй яснасьці і прастаце можа вытрымаць любы конкурс. Дык і запраўды няма нічога дзіўнага, ці незразумелага, што нейкая колькасьць людзей яднаюцца дзеля таго, каб мець магчымасць купляць сабе спажыўныя ці іншыя тавары магчыма лепшага гатунку і па магчыма ніжэйшай цане з першых рук,—мець магчымасьць у разе патрэбы атрымаць пазычку грошаў за невялікія працэнты.

Апрача сваёй асабістай карысьці людзі гэныя прыносяць карысьць на грунце культурна-эканамічным наагул усяму грамадзянству. Яны вядуць барацьбу з прыватнымі гандлярамі, з іх злоўжываньнямі і той зыск, які прыватныя гандляры кладуць у свой кішэнь—пры кооперацыі звычайна выкарыстоўваецца цэлым таварыствам на рожныя культурна-асьвятовыя мэты.

У заходняй Эўропе, дзе арганізацыйны рух шмат магутнейшы як у нас, коопэратыўныя таварыствы лічаць сваіх сяброў сотнямі тысячаў і мільёнамі. Ня лічучы неабходнай патрэбай гаварыць тут аб развіцьці коопэрацыі паасобна ў кожнай старонцы, я спынюся толькі на яе разьвіцьці ў Швайцарыі, жыцьцёвыя варункі якой былі вельмі цяжкімі.

У сувязі з вялізарным рэакцыйным уціскам народу з боку швайцарскіх паноў цяжкімі падаткамі і дрэнным кіраўніцтвам урада ў 40 гадох XIX стагодзьдзя жыцьцё для народу стала немагчыма цяжкім. Вартасьць на рэчы першай патрэбы дайшла да надзвычайных памераў.

І вось у гэтую пару зьявіліся найвыдатнейшыя людзі, якія пачалі на эканамічным грунце барацьбу з зробленым праз паноў зьнішчэньнем краю і народу.

Спачатку ў гарадох, а потым і ў вёсках пачалі ўзнікаць коопэратыўныя таварыствы. Гэныя таварыствы зьявіліся як-раз у пару, бо ўсё трашчала і разваліналася ад кіраваньня панскага ўраду; арганізм дзяржавы пачаў разлязацца па ўсім швам ад штрайкаў, дэ-

манстрацыяў абодранага, голага і галоднага грамадзянства.

На заклік маладых таварыстваў адклікнуліся асобы, зусім адданыя сваяму люду, ня страціўшыя надзеі адратаваць яго ад бяды. Яны аддалі ўсю сваю энэргію, розум і шчырую любоў справам свайго народу і, згуртаваўшыся ў коопэратыўныя таварыствы, сваёю працаю хутка палепшылі дабробыт грамадзянства і дзяржавы.

Пара і нам скінуць кайданы, пара ўзяцца за працу на гэтым грунце. Неабходна выклікаць у грамадзянства давер'е да згуртаваньня і працы на коопэратыўным грунце, а гэтые давер'е зьявіцца тады, калі будзе пашырана сярод грамадзянства сьвядомасьць аб значэньні ў яго жыцьці і на яго карысьць коопэрацыі.

Хто ў нас павінен стаць на чале гэтае працы? Інтэлігэнцыя—як сьвецкая, так і духоўная. Тут шырокі прастор для працы людзей, рожных поглядаў: палітычных, сацыяльных і рэлігійных. На гэтым грунце могуць аб'яднацца ўсе, хто запраўды шчыра любіць свой родны народ і жадае яму добра.

Вялікі ўдзел у гэнай працы павінна прыняць духавенства, бо праца на грунце коопэратыўным па сваёй сутнасьці запраўды блізкая да працы на грунце рэлігійным. Яна імкнецца выравшыць у духу хрысьціянскім вялікія праблемы практычнага жыцьця: як запоўніць непраходную прорву паміж багатымі і бепнымі, як зьнішчыць антаганізм паміж капіталам і працаю, як наладзіць, каб разьвіцьцё тэхнікі палягчала працу працаўнікоў замест таго, каб зусім пазбаўляць іх працы і г. д. коопэрацыя павінна зьніштожыць прымусовую працу падобна таму, як хрысьціянства зьніштожыла рабства.

**Вукол.**

---

# Віленскі Епархіяльны Склад.

На Епархіяньным з'езьдзе духавенства Віленскае Япархіі, адбыўшымся 14-17 верасьня 1926 году, я быў выбраны кіраўнікам Епархіяльнага Складу. На разьвіцьцё складу зьезд выасыгнаваў 3000 зл. Зьезд лічыў існаваньне склада карысным і неабходным. Епархіяльная Улада гэтае пастановы Зьезда не зацьвердзіла, і я атрымаў тэрміновы загад перадаць усю маемасьць Склада асобнай ліквідацыйнай камісіі, старшынёй якое быў вызначаны а, пратаярэй В. Бяляеў.

З тае пары я атрымаў ад духавенства шмат пытаньняў а нават і закідаў, чаму я не выканаў волі духавенства і адмовіўся ад кіраваньня складу і куды, каму і сколькі перадаў маемасьці, і што сталася з гэтай маемасьцю далей. Падобныя пытаньні, якія я атрымліваю і цяпер змушаюць мяне даць наступнае тлумачэньне.

На закіды, чаму я не кіраваў складам, служыць адказам вышэй прыведзеная прапанова Епархіяльнае Улады перадаць усю маемасьць Склада ліквідацыйнай камісіі. Застаецца толькі даць справаздачу, што я прыняў,—што, як і каму прадаў.

Пасьля выбару мяне кіраўнікам склада я 20 верасьня 1926 г. прыняў ад пратаярэя В. Беляева маемасьці

| | |
|---|---|
| на . . . . . . | 6881 зл. 97 гр. |
| і доўгу за царк. | 139 зл. 50 гр. |
| Усяго на суму | 7021 зл. 47 гр. |

Аб гэтым у мяне захоўваецца падпісаны а. прат. Беляевым акт.

Ніякае опісі маемасьці ня было.

Здана мною маемасьць Склада 15 лістапада таго-ж 1926 году па наступнаму дакумэнту (пераклад з расейскага). „Акт 15 лістапада 1926 году. Абраны Епархіяльным Зьездам, адбыўшымся 14—17 верасьня 1926 г. Кіраўнік Віленскага Епархіяльнага Складу настаяцель Віленскае Сьніпіскае Царквы, сьвяшчэньнік А. Коўш на падставе загаду Віленскае Кансысторыі ад 6 лістапада

1926 году за № 3937, якая, ня гледзячы на адпаведную пастанову Епархіяльнага Зьезду, прызнала існаваньне Склада не магчымым і пастанавіла яго зьліквіне даваць. — здаў вызначанай тым-жа загадам ліквідацыйнай камісіі ў асобе яе старшыні Настаяцеля Віленскае Міколаеўскае Царквы пратаярэя а. В. Бяляева.

| | |
|---|---|
| 1) Астачу касы, зазначаную ў касавай кнізе 14 лістапада 1926 г. у суме | 21 зл. 40 гр. |
| 2) Спісак Царквоў, якім адпушчаны тавары ў доўг з 22/IX по 10/XI і, значыцца належыць атрымаць ад іх . . . . . . | 180 зл. 80 гр |
| 3) Пяць паштовых квітоў на атрыманьне з пошты агульнае сумы . | 146 зл. 20 гр. |
| 4) Азначанае ў асобнай ведамасьці маемасьць склада па ст. ст. ад 1 по 181 на агульную суму | 9517 зл. 88 гр. |
| 5) Азначаныя ў асобнай опісі № 2 кнігі ў ліку 8015 экзэмпляраў . . . . | (неаценяных). |
| 6) Опіс маемасьці, набытае за час ад 22/IX да 14/XI 1926 г. і пазастаўшаяся ня проданую на агульную суму . . | 350 зл. 90 гр. |
| 7) Шкляных лямпачак 13 шт. на . . . | 10 зл. 60 гр. |
| 8) Свячных агаркаў 2 кіло . . . . . . | 3 зл. 50 гр. |
| Усяго на суму . | 10231 зл. 28 гр. |

Пералічаныя ведамаьсці далучаюцца да гэтага акту.

Апрача гэтага здана:

| | |
|---|---|
| 1) Пералічаная ў ведамасьці з № 182 па № 192 маемасьць -- прылады магазыну, якія складаюцца з 23 рэчаў неацэняных 8015 экзэмпляраў кніг . . | неацэняных. |
| 2) Касавая кніга . . | |
| 3) Пранумераваныя з № 1 па № 67 раскладныя як належыць аплачаныя рахункі на суму . | 3101 зл. 16 гр. |
| 4) Таварная кніга . . | |
| 5) Тры квітанцыйныя кнігі: | |
| а) прадажа-наліч-ныя квіты № 1-71 | |
| б) тавараў, высланых наложным плацяжом квіты № 1-8 | |
| в) тавараў, адпушчаных у доўг квіты № 1-8 . . . | |
| 6) 7 бутылак царкоўнага віна на . . | 24 зл. 75 гр. |
| 7) Ключы ад памешканьня Складу. | |

Памешканьне здано ў парадку.

Здаў Настаяцель Віленскае Сьніпіскае Царквы сьвяшчэньнік А. Коўш.

Прыняў Старшыня Камісіі пратаярэй В. Бяляеў. (Рукою а. Бяляева дапісана „паведамляныя два сябры камісіі не зьявіліся“). Прысутнымі былі сьведкі,— якія і падпісалі: Васіль Стрыжак, Уладзімір Яконюк, Вера Бяляева.

Такі акт, а таксама і ведамасьці ім азначаныя, былі зложаны і падпісаны ў 3 экзэмплярах; па аднаму экзэмпляру акта і ведамасьцяў перахоўваецца у мяне.

З гэтага акту відаць, што я здаў маемасьці ацэнянае

| | |
|---|---|
| па опісам . . . . | 10231 зл. 28 г |
| і 7 бут. царк. віна | 24 зл. 75 г |
| Усяго на . . | 10256 зл. 03 г |

г. зн. на 3234 зл. 56 гр. больш, як прыняў (10256 зл. 03 гр. — 7021 зл. 03 гр. 3235 зл. 56 гр.). Апрача гэтага здана 8015 экз. кніг і 23 рэчы тарговых прыладаў, як шафы, прылаўкі, вітрыны, вагі і г. д., якія пры передачы мне 28/IX 1926 г. маемасьці склада ўваходзілі ў суму 7021 зл. 03 гр., бо ў перадатачным акце пр. Беляева была азначана: „различных предметов“.

З гэтага відаць, што мае папярэднікі ня ведалі, што ў Складзе было.

Першым учынкам мае кароткае працы ў Складзе было зрабіць падрабязныя опісі усяе маемасьці г. зн. выясьніць што ёсьць і завясьці адпаведныя паводле тарговага права, кнігі, што і было зроблена, але на жаль хуткае закрыцьцё складу перашкодзіла мне ацаніць кнігі і рэчы тарговых прыладаў.

Вартасьць рэчаў на 10256 зл. 3 гр. зложылася з цаны, якая была абазначана да мяне на кожнай рэчы. Гэтыя цэны, №№ і назоў кожнае рэчы ўнесяны мной у опісі.

Што датычыць 8015 экз. кніг і 23 рэчаў таргавых прыладаў, дык на іх цаны ня было, — я ў опіс унёс іх паабрязны назоў № № і лічбу а ацаніць іх я ня лічыў сябе паўнамоцным. Для гэтае мэты неабхоцна было склікаць сходную камісію, але загад аб ліквідацыі склада, як я зазначыў, перашкодзіў мне гэта зрабіць.

Вышэйпададзенае зьяўляецца частковым адказам маім паважным карэспандэнтам.

Ужыў слова частковым дзеля таго, што не даў адказу на пытаньне: „што сталася з маемасьцю складу пасьля передачы яе мною?“ Есьць дадзеныя для адказу і на гэтае пытаньне, але цяпер як-раз працуе рэвізыйная камісія, якая павінна будзе даць справаздачу аб „ліквідацыйнай“ дзеяльнасьці склада, яе нармальнасьці і правідловасьці, карысьці, яснасьці і справядлівасьць запісаў у кнігах а таксама і аб тым, колькі і на якую суму рэчаў прадана, куды грошы ўнесяны, колькі, і на якую суму рэчаў ёсьць.

Рэвізыйнай Камісіі бязумоўна ня трудна будзе справіцца з гэтым заданьнем: варта толькі праверыць цэну і №№ на рэчах, ці згодны яны з тымі опісямі, па якім былі зданы рэчы 15-IX 1926 г. а сутнасьць тых ці іншых рэчаў, таксама што і на якую суму прадана, а калі на рэчах былі знойдзены цэны ня згодныя з опісамі, гэта сьведчыла-бы аб тым, што яны самавольна пераацэняны.

У кожным выпадку раней трэба зрабіць падлічэньне тавару па старым цэнам, бо інакш затруцца сьляды, на якую суму тавару продана, — а пасьля ужо пераацэніваць тавары. Аднак-жа, ведаючы рынычныя цэны на царкоўныя рэчы ў сучасны момант і раўнуючы іх з цэнамі, якія былі абазначаны на таварах і ў ведамасьцях, мушу зазначыць, што зьніжка цэнаў была-бы нічым не апраўданай.

Пазастаўляю за сабою права яшчэ парушыць справу ліквідацыі Епархіяльнага Складу з зсылкаю на дакумэнтальныя дадзеныя па заканчэньні працы Рэвізыйнае камісіі.

**Сьвяшчэньнік А. Коўш**

# Яшчэ аб Пятніцкай Царкве.

Расейская газэта „За Свободу“ зьмясьціла ў двух нумарох артыкулы пад назовам „Лёс Пятніцкае Царквы. Газэта вельмі занепакояна тым, што ў Царкве, гэтай гістарычнай сьвятыні Беларусі, маюць жаданьне маліцца праваслаўные беларусы.

Газэта ня сумуе аб тым, што Пятніцкая Царква ўвесь час стаяла зачыняна, што ў ёй служба Божая не адпраўлялася, што сьцены Царквы зьядае грыб, што тынк абваліўся, што Царква на столькі закінена, што нават крыж на ёй пахіліўся на бок і гатовы зваліцца і што гэтай сьвятыні можа пагражаць з боку Ураду загад аб яе разборцы (бо-ж яна знаходзіцца ў цэнтры места і ня можа так доўга стаяць), але „За Свободу“ вельмі сумуе, што ў ёй могуць беларусы маліцца, што жадаюць адрамантаваць Царкву і праз яе паглыбляць рэлігійную сьвядомасьць.

На жаль гэтыя імкненьні спатыкаюць найбольшую няпрыхільнасьць з боку тых асобаў, якія як раз павінны былі-б дапамагаць зьдзейсненьню гэтае сьвятое справы.

Але што абходзіць чужынцам нават і рэлігійная справа чужога для іх народу? Яны глядзяць тут на свой пабыт як часовы і сваі асабістыя справы, сваю ўласную карысьць ставяць вышэй усяго.

**Адзін з бацькоў.**

---

Як ужо падавалася да ведама чы-

тачоў „Беларрскае Зарніцы", Яго Блажэнства Мітрапаліт Дзіанісі прыхільна аднёсься да просьбы беларусоў адносна Пятніцкае Царквы і благаславіў просьбу іх выканаць ад 1 верасьня г. г.

А 10 кастрычніка Віленская Духоўная Кансысторыя ў гэтай справе пастанавіла: 2) ...вчинить ходайство пред гражданскою властью об открытіи самостоятельнаго Пятницкаго прихода в Вильнѣ **с обезпеченіем причта его средствами содержанія.** 3) Что касается вопроса о выдѣленіи части имущества Николаевской гор. Вильны Церкви для обезпеченія причта новообразуемаго Пятницкаго Прихода, то ввиду того, что **вопрес об обезпеченій предрѣшен во 2-м пунктѣ** настаящего постановленія, окончательное рѣшеніе его отложить до полученія отвѣта от Правительства".

Хаця-ж адмова схавана і хітра, аднак-жа ня трэба думаць, што ўсе дурні і ня зразумеюць. Адкрытая адмова заслугоўвала-б хаця-ж нейкай пашаны да свае шчырасьці.

Прычт Віленскае Мікалаеўскае Царквы выслаў у Кансысторыю ведамасьць аб прыходзе і расходзе грошаў ад нярухомасьці, належачай да Мікалаеўскай Царквы.

У гэтай ведамасьці паказана чыстага гадаваґа даходу ад маемасьці 2.400 зл. 44 гр.

Калі запраўды прычт Мікалаеўскае Царквы так спрытна вядзе гаспадарку, што з двох вялікіх, у 3 паверхі камяных дамоў, знаходзячыхся ў цэнтры местаў, і двох надзелаў (больш70 дзесяцін) зямлі мае толькі 2.400 зл. хаця-ж нават і з 44 грашамі,—дык паўстае пытаньне ці здольны гэты прычт вясьці гэтую гаспадарку?

У кожным выпадку прапануецца прычту Мікалаеўскае Царквы замест 2.400 зл. і 44 гр. 4800 зл. і 88 гр. гадавое арэнды за дамы і зямлю з прыняцьцем на сябе расходау на утрыманьне дамоў.

**Раос.**

# Рэдакцыя „Беларускае Зарніцы"

ветліва просіць паважаных чытачоў, як духоўных так і сьвецкіх, прысылаць артыкулы і заметкі царкоўнага, культурнага, нацыянальнага, эканамічнага і інш. зьместу. Усе балючыя пытаньні знойдуць мейсца на старонках „Беларускае Зарніцы". Пісаць можна ва ўсіх мовах, якую хто ляпей ведае. Артыкулы і заметкі могуць быць надрукаваны альбо за подпісам аўтара, альбо пад псэўдонімам у залежнасьці ад жаданьня аўтара. У апошнім выпадку, калі матар'ял друкуецца пад псэўдонімам, таямніца аўтара бязумоўна захоўваецца. Артыкулы і заметкі рэдакцыя просіць надсылаць па адрэсу: Wilno, Letnia 7, „Białoruska Zarnica", ці на прозьвішча рэдактара.

# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22